Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 40 (91). Вільня, Субота 7 Траўня 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Нахай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Доля матурыстых.

Як кожны год, так і сёлета ў чэрвені некалькі дзесяткаў вучняў пакінуць сьцены беларускіх гімназіяў, атрымоўваючы беларускую матуру. Момант атрымліваньня матуры ў жыцьці моладзі наагул зьяўляецца адным з найсьвятлейшых момантаў, бо ён адчыняе перад юнаком новае поле да самай рожнароднай працы, як над сабой самым пры далейшай асьвеце, так і на полі грамадзкага вытворства. Але гэты сьветлы дзень закончэньня сярэдняе асьветы для беларускіх матурыстых у Заходняе Беларусі зацягнуты хмарамі.

Перш-на-перш для далейшай асьветы на Бацькаўшчыне для беларускіх матурыстых зачынены дзьверы. Каб вучыцца далей, абсальвэнты павінны шукаць вышэйшае школы за межамі краю. Але як тормаз у далейшай навуцы выступаюць матэр'яльныя абставіны. Бяз вонкавай дапамогі зусім немагчымай зьяўляецца замежная навука для Беларусаў. Калі мы маем сваіх студэнтаў заграніцаю, дык за гэта павінны быць удзячнымі тэй ці іншай помачы з боку іншых. Перадусім чэхаславацкі народ прышоў на помач Беларусам, прызнаючы больш сотні стыпэндыяў. Але калі польскаму ўраду не падабаецца тое, каб Беларусы вучыліся ў сваім краі, дык яшчэ больш не падабаецца яму вышэйшая навука для Беларусаў заграніцаю. І вось, як толькі Польшча пачала ўваходзіць у больш прыязныя зносіны з Чэхаславацыяй (заключэньне гандлёвага трактату) зараз чэскі ўрад спыніў выдачу стыпэндыяў новым студэнтам Беларусам.

Другой дзяржавай, якая прызнае стыпэндыі для беларускай моладзі—ёсьць Б. С. С. Р. Калі чэхаславацкі славянскі народ мог прызнаць беларускім студэнтам стыпэндыі, то нічога дзіўнага, што свой Беларускі Народ прызнае сваім сынам дапамогу для здабыцьця вышэйшае асьветы.

Беларуская Радавая Рэспубліка зусім натуральным правам прызнае гэтыя стыпэндыі для беларускай моладзі з Заходняе Беларусі, бо гэтая моладзь дома ня мае магчымасьці вучыцца. Аднак, на колькі нам ведама, радавая ўлада вельмі неахвотна прымае да сябе беларускіх матурыстых з Заходняе Беларусі. Дагэтуль лік студэнтаў з Заходняе Беларусі ў радавых рэспубліках даволі невялікі; мала гэтага, здараліся выпадкі, калі радавыя ўлады высылалі нейдзе ў глыбіну Саюзу матурыстых, што нелегальна пераходзілі граніцу. Гэтае ня вельмі ахвотнае прыймо нашых матурыстых тлумачыцца некалькімі аргумантамі. Бязумоўна адзін з іх зьяўляецца матэр'яльнага характару. Радавая Беларусь матэр'яльна знаходзіцца ў незашмат выгадных варунках, каб магла ўтрымоўваць сотні студэнтаў з Заходняе Беларусі. Другім аргумантам зьяўляецца тое, што нацыянальны элемэнт ня мае вялікіх уплываў на ўладу і затым камуністы-інтэрнацыяналісты ня хочуць, каб Менск вытвараў „зашмат" беларускай інтэлігенцыі, якая магчыма будзе мець нацыянальную ахварбоўку, тым больш, што нашыя матурысты выхоўваюцца пераважна больш у нацыянальным духу.

Апрача вышэй успомненага, магчымым аргумэнтам зьяўляецца наступнае: Радавай уладзе ходзе аб тое, каб у Заходняй Беларусі зьбіралася незадаваленьне з існуючых варункаў і цяперашняга ладу. Беларускія матурыстыя, будучы адсунуты ад вышэйшай школы і ад працы наагул, бо ў Заходняй Беларусі для беларускай інтэлігенцыі няма ніякага варштату працы, будуць тым фэрмэнтуючым элемэнтам, які будзе ўсьведамляць вёску аб яе правох і магчымасьці лепшай долі ў выпадку зьмены існуючага ладу. Апрача таго радавая ўлада, неахвотна прымаючы беларускіх матурыстых гэтым проціставіцца палітыцы польскага ўраду. Як ведама, польскі ўрад увесь час імкнецца да таго, каб у Заходняй Беларусі не тварыліся свае кадры інтэлігенцыі і такім чынам спрыяе ўсялякай беларускай эміграцыі за межы Польшчы. Калі ходзе аб эміграцыю ў СССР, то з боку польскае ўлады няма ніякіх перашкод, бо з Радавага Саюзу зачынены зусім паварот із ноў у край—у Заходняю Беларусь.

Вось гэты апошні факт павінен на сябе зьвярнуць увагу беларускага грамадзянства. Здабываць за межамі навуку і варнуцца ў край—гэта ёсьць толькі карысным для краю, але здабываць навуку заграніцай і пасьля не варочацца на Бацькаўшчыну—гэта ёсьць згуба для краю. Калі мы будзем вытвараць беларускую інтэлігенцыю толькі на экспорт, то гэтым самым будзем рабіць сабе вялікую крыўду, будзем памагаць польскаму ўраду паланізаваць наш край. Аб гэтым павінны ведаць усе тыя сьвядомыя Беларусы, якія даюць магчымасьць беларускім матурыстым здабываць навуку. Калі Беларускі Народ можа даваць вышэйшую навуку сваім сынам, дык гэтая навука павінна быць так арганізаванай, каб Заходняя Беларусь ня толькі ня губляла інтэлігенцыю, а наадварот каб зьбірала яе. Толькі гэтай дарогай будзем магчы ўстрымаць чужацкае наступленьне.

## Новыя зьдзекі.

Да фактаў зьдзеку польскай адміністрацыі над Беларусамі далучаем наступнае здарэньне, якое апісвае сам пакрыўджаны:

„27-га красавіка с. г. я прыехаў на станцыю Стоўпцы, едучы ў Вільню. Сустрэў тамака дзьвюх калежанак з стаўпецкае гімназіі, Валентыну Зарэмбоўскую і Лідзію Канкаловічанку. Яны ехалі гэтак сама ў Вільню, дзе вучацца ў акушэрскай школе. З імі ехаў з водпуску жаўнер, калега іх, мне зусім няведамы. Селі ў вагон разам. Едучы гутарылі, як хто правёў водпуск і вялікодныя сьвяты. Нарэшце гутарка зыйшла на вялікодныя сьпевы, якія, паводле звычаю, у беларускіх вёсках пяюць увечары на першы дзень сьвятаў. Жаўнер, які ехаў разам з названымі калежанкамі, апавядаў нам, што ў іхняй вёсцы прынята пяяць расейскую песьню „Велік сьвятый нам день настал". А я казаў, што ў нашай вёсцы зусім гэтае песьні ня ведаюць. Іншыя ў вёсцы пяюць „Вэсолы нам дзісь дзень настал", — але такіх вельмі мала, бо ня ўсе ўмеюць папольску. Я расказаў, што прывёз з сабой з Вільні тую-ж песьню, перакладзеную на беларускую мову. Цяпер усе яе навучыліся і пялі падчас сёлетніх сьвятаў. На гэтым наша гутарка абарвалася.

„Калі мы пад'яжджалі да станцыі Баранавічы, да мяне падыйшоў паліцыянт № 1951, які папрасіў у мяне легітымацыю. Бачучы, што зварачваецца да мяне службова, я даў яму маю студэнцкую легітымацыю, якую ён забраў з сабою. Калі поезд прыйшоў на станцыю Баранавічы, ён сказаў мне выйсьці з поезду і завёў на чыгунковы пастарунак дзяржаўнае паліцыі. Калі мяне туды завялі, зьявіўся нейкі чалавек у цывільнай вопратцы, які з славамі: „Маем перад сабой тыповага беларуса" і далей „я табе пакажу, як гутарыць сабачай мовай, ты бальшавік, камуніст, у Менску табе мейсца", ды з рознымі вулічнымі лаянкамі ў расейскай мове — кінуўся на мяне, ударыў колькі разоў па твару, цягаў за валасы і сарваў унівэрсытэцкі факультэцкі знак. Здаволіўшыся гэтым, зрабіў мне закід, быццам я намаўляў жаўнераў пяяць у войску беларускі нацыянальны гімн. Я рашуча запярэчыў гэтаму, падобна-ж запярэчыў і жаўнер, з якім я ехаў, ды якога гэтак сама прывялі на пастарунак. Не гледзячы на гэта, мяне заарыштавалі, дыператрасьлі, б'ючы і ганебна лаючы. Пасьля пан у цывільнай вопратцы паехаў поездам, а мяне адаслалі да дыспазыцыі пана асьпіранта дзяржаўнае паліцыі ў Баранавічах. Тамака напісалі пратакол аб усей справе, і мяне звольнілі.

„У часе біцьця на пастарунку былі прысутныя паліцыянты №№ 1464 і 1951, ды яшчэ адзін паліцыянт, нумару якога я не дагледзіў.

**Міхал Тулейка.**

З вышэй паданага, бачым, да якой самаволі і зьдзічэньня даходзяць польскія шпікі на беларускіх землях.

*Усіх падпішчыкаў просім прыслаць належныя за газэту грошы. Хто ня прышлець падпіскі, таму будзе спынена пасылка газэты.*

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Першае мая ў Маскве.

1-га мая ў Маскве ўжо з самае раніцы не гледзячы на дрэнную пагоду на вуліцах Масквы паўстаў жывы рух. У сьвяткаваньні бралі ўдзел войска і ўвесь бальшавіцкі дзяржаўны апарат.

Адбыўся вайсковы парад, які прыняў Старшыня вайсковага рэвалюцыйнага савету Варашылаў.

Пасьля параду адбылася прысяга маладых чырвонаармейцаў пад гарматні салют.

Ад імяні ўраду прывітаў войска старшыня ўраду Рыкаў, ад Камінтэрну Мэрфі і ад Кампартыі Бухарын.

Па заканчэньні мітынгу войскі прайшлі цэрэмоніяльным маршам перад маўзалеем Леніна. Усяго праз чырвоную плошчу прайшло каля мільёну чалавек за адзін дзень, дык ня дзіва, што і 2-га мая таксама сьвяткавалі, але ўжо дзеля таго, каб адпачыць ад першамайскіх сьвяткаваньняў.

### У Кітайскім катле.

Гэтымі днямі прыходзяць вельмі пераменныя весткі, дык устанавіць што-колечы падобнае на праўду немагчыма.

Газэты пішуць, быццам гэн Чанг-Кай-Шэк з арміяй ў 80 тысяч чалавек ідзе на Ханькаў, то ізноў быццам Чанг-Тсо-Лін заняў Ханькоў сваймі вайскамі. Як відзім дык хатняя крывавая барацьба ў Кітаі зацягнулася і што там робіцца дакладна, нельга разабрацца.

Есьць весткі, што там дзе пануе бальшавізм, дык і пануюць разрахункі з буржуазнымі клясамі.

Жонка расейскага прадстаўніка Барадзіна і 45 расейцаў заарыштаваных у Пэкіне аддаены суду. Разгляд справы вядзецца тайна.

### Літва.

Міністар Асьветы д-р Бістрас і Міністар Скарбу Карвяліс вышлі з ураду. На іх места называюць кандыдатаў на м. асьветы інж. Шакэніса і на м. скарбу Пайраўскаса.

29 красавіка г. г. ваенны суд у Коўні разглядаў справу некалькі асобаў вінавачаных у дзейнасьці варожай сучаснаму ўстрою дзяржавы і ўрўду.

Адзін з абвінавачаных Я. Каўнецкас асуджаны на 20 гадоў цяжкага вастрогу, а рэшта на 8 і 6 гадоў цяжкага вастрогу.

Асуджаных на сьмерць пасла Паюса і афіцэра Тарнаў прэзыдэнт Літоўскай рэспублікі памілаваў, а сержант Жэмайтыс растрэляны.

### Італія.

Італія правацыруе вайну з Югаславіяй. Мусаліні энэргічна вядзе захопніцкую палітыку на Балканах.

Італія зьбірае свае войска да граніцы Югаславіі.

Італьянскі прадстаўнік у Баўгарыі запрапанаваў цару Барысу ўдзяліць частку Югаславіі, калі Баўгарыя аднясецца прыхільна да Італіі на выпадак вайны між ею і Югаславіяй.

Баўгарыя гэтую прапанову адкінула.

### Японія.

Новы японскі ўрад вядзе няпрыхільную палітыку да Савецкага Саюзу. Японія маніцца заняць Харбін і кітайска-усходнюю чыгунку, якая належыць да Расеі.

### Амэрыка.

Рака Місісіпі гэтак шырока разьлілася, што заліла ня толькі Новы-Арлеан але-ж і частку штату Люзіана, ахапіўшы патопам яшчэ два іншыя месты.

Места Александрыя якое мае 25 тысяч жыхарства зьнікла пад вадою. З вады відаць толькі каміны. Вада ўжо сама праравала ў шасьці мясцох берагавыя загарады.

200.000 амэрыканскіх грамадзян гэтай паводкай матэрыяльна вельмі ўцярпелі, іх маемасьць зьнішчана.

Амэрыканскі Чырвоны Крыж хутка прышоў з дапамогаю і ў часова настаўленых бараках разьмясьціў гэтыя 200.000 ахвяр паводкі, якія асталіся бяз дахаў над галовамі.

### Радавая нота Кітаю.

Паведамляюць з Пэкіну, што з прычыны арышту расейскіх урадоўцаў і жонкі камісара Барадзіна, радавы ўрад прыслаў вострую ноту, у якой заяўляе, што Масква бязумоўна зробіць адпаведныя крокі, калі да арыштаваных расейцаў будуць таксама адносіцца, як нядаўна да кітайскіх камуністаў.

# Парады ў справе закладаньня коопэратываў.

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры, дбаючы аб матэрыяльным дабрабыце сялянства і гаспадарчым разьвіцьці краю, аднэй са сваіх мэтаў імкнецца да пашырэньня коопэрацыі. У сувязі з гэным Інстытут залажыў у Вільні Коопэратыўна-Гандлёвыя Курсы, на якіх некалькідзесят Беларусаў атрымаюць патрэбную мінімальную веду для залажэньня і вядзеньня коопэратываў. Дзеля таго, што ня ўсім магчыма быць і акончыць такія курсы, Інстытут, у меру магчымасьці праектуе арганізаваць **Карэспандэнцыйныя Коопэратыўныя Курсы**, якія можна будзе праходзіць, седзячы дома, на вёсцы (мястэчку)

Да часу пакуль будуць арганізаваны такія курсы Інстытут бясплатна ўсім жадаючым дасьць парады ў справе закладаньня коопэратываў, спажывецкіх таварыстваў, малачарняў, крэдытовых таварыстваў (банкаў) і інш.

За парадамі трэба зварачвацца па адрэсу: Вільня, Завальная 6.

**Беларускі Інст. Гасп. і Культуры.**

## Грамадзяне,
## запісывайцеся у сябры Інстытуту!

Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры ёсьць адзінай гаспадарчай беларускай установай і аднэй з найпаважнейшых культурных арганізацыяў у Заходняй Беларусі. Інстытут утрымлівае дзьве прыватныя беларускія школы і коопэратыўна-гандлёвыя курсы. Каб Інстытут мог шырэй павясьці гаспадарчую і культурную працу, патрэбна падтрыманьне беларускага грамадзянства. Дзеля таго, што нашае грамадзянства знаходзіцца ў вельмі цяжкіх матэр'яльных абставінах, цяпер яно ня можа нясьці вялікіх афяр на свае арганізацыі. Але афяроўваючы і маленькія сумы пры вялізарным ліку афярадаўнікаў могуць сабрацца паважныя сумы, за якія можна шырэй павясьці працу карысную для ўсяго беларускага грамадзянства. У Заходняе Беларусі ёсьць каля $2^1/_2$ мільёнаў Беларусаў і калі-б з кожнае сям'і (хаты) афяраваць па 1 зл. у год, то разам зьбярэцца сума каля 500.000 зл. За такія грошы можна павясьці ня толькі культурную працу, але і гаспадарчую, з якое будзе мець карысьць усё беларускае грамадзянства.

Дык маючы гэта на мэце, кожны сьвядомы Беларус пасьпяшыся запісацца ў сябры Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры. Інстытут не зьяўляецца палітычнае партыяй, а толькі гаспадарча-культурным таварыствам і затым сябрамі Інстытуту можа быць кожны сьвядомы Беларус бяз розьніцы палітычных перакананьняў. Сябры Інстытуту аплачваюць у год толькі 1 зл. сяброўскіх складак і аднаразова ўступных 1 зл.

Хто хоча запісацца ў сябры Інстытуту павінен прыслаць заяву такога зьместу:

У Беларускі Інстытут Гасп. і Культуры
у Вільні, Завальна 6.

ЗАЯВА

Ветліва прашу залічыць мяне ў сапраўдныя сябры Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Адпачасна дэкляроўваю акуратна аплачваць сяброўскую складку і тасавацца да Статуту і Рэгуляміну Інстытуту.

(—) подпіс

Вёска . . . . .
Воласьць . . . .
Павет . . . . .
Пошта . . . . .
Дня . . . . 192 . . г.

Пасьля залічэньня кандыдата ў сябры Інстытуту, ён атрымлівае сяброўскі білет. Перад атрыманьнем білету кожны новапрыняты сябра павінен заплаціць 1 зл. уступной складкі і найпазьней за 3 месяцы ад дня атрыманьня білету заплаціць 1 зл. сяброўскіх складак.

У мясцовасьці, дзе знойдзецца ня менш як 3 сапраўдныя сябры Інстытуту могуць яны залажыць Гурток і самастойна вясьці працу.

Пакуль няма такога гуртка на месцы кожны нова-прыняты сябра Інстытуту будзе належыць да Аддзелу або Цэнтралі Інстытуту.

**Дык кожны сьвядомы Беларус, якому дарага адраджэньне Беларускага Народу, кожны селянін, які хоча для сабе і сваіх суседзяў лепшай долі, запісвайся ў Інстытут!**

**Цэнтральны Ўрад Інстытуту.**

*Ніколі не зьнішчай газэты, прачытаўшы дай яе суседу.*

# НАВІНЫ.

— **Лекцыя ў Інстытуце.** У суботу 7-га мая ў Інстытуце гр. Каруза прачытае лекцыю на тэму: „Ідэал Народнай культуры". Пачатак лекцыі а 7 гадз. увечары. Уваход вольны.

— **Угодкі сьмерці К. Сваяка.** З прычыны першых угодкаў сьмерці беларускага паэта К. Сваяка ў нядзелю 8-га мая а 7 гадз. увеч. у кватэры Інстытуту ладзіцца акадэмія з наступнай праграмай: 1) Лекцыя кс. А. Станкевіча на тэму „Агульная характэрыстыка творчасьці К. Сваяка". 2) Дэклямацыя вершаў К. Сваяка. 3) Сьпевы.

Уваход вольны.

Апрача акадэміі ў гэты дзень а 3 гадзіне адбудуцца адведзіны магілак беларускіх пісьменнікаў на Россе.

— **„Скарб".** Вышла з друку вершаванае народнае апавяданьне „Скарб" твор Я. Васілеўскага. Як ведама, беларускія вершы заўсёды бываюць тонічныя (глядзеце белар. паэтаў Купалу, Коласа) а Я. Васілеўскі ўлажыў свой твор сылябамі. Гэтакае вершаваньне падходзіць толькі да тых моваў, якія маюць заўсёды націск на адным месцы слова. Беларускія словы падпадаюць пад націск у рожных частках, дык дзеля гэтага сілябічны беларускі верш ня мае рытмікі, а знача замала музыкальны і ня гучны.

— **Загневалася ліха.** „Беларускі Дзень" абурыўся на „Сял. Ніву" за тое, што яна назвала яго запраўдным імем, г. знача польскаю газэтаю ў беларускай мове, выдаваную за польскія грошы, каб баламуціць нашае сялянства і рабіць палянафільскую палітыку.

А абурыўшыся, каб кальнуць „Сял. Ніву" „Беларускі Дзень", ці праўдзівей „Беларускае Ліха" зьмесьціў фокусны фэльетон. У гэтым фэльетоне „Беларускі Дзень" робіць „Сял. Ніве" гэтакія закіды, што рэагаваць ня варта.

Дый хто-ж будзе верыць „Беларускаму Дню" калі кожнаму ведама, што ён на тое і паўстаў, каб кідацца гразёю ў запраўдных Беларусаў і шчырых дзеячаў на ніве нацыянальнага адраджэньня і сацыяльнага вызваленьня.

— **У Віл. Гуртку Бел. І. Г. і К.** З прычыны выхаду Я. Зянюка з прэзыдыуму Віленскага Гуртка Белар. Інстытуту Гаспадаркі і Культуры, аўтаматычна абавязкі старшыні гуртка пераходзяць на грамадзянку Г. Карузянку, як на першага кандыдата.

# Другая кніжка „Сахі".

Другая кніжка „Сахі" таксама як і першая па свайму зьместу зьяўляецца чыста вясковагаспадарчаю.

Зьмест яе гэтакі: „Як жывуць сяляне ў Даніі?" Падаючы весткі аб жыцьці датскага сялянства, „Саха" робіць вывады, што да таго высока культурнага роўня ў сваім земляробстве, які дае датскаму сялянству дабрабыт, яно дайшло, працай, навукай і арганізаванасьцю. „Саха" радзіць і нам трымацца гэтага самага.

Цікавым зьяўляецца другі артыкул „Як павялічыць ураджайнасьць зямлі". Аўтар гэтага артыкулу ўзяў важную тэму і, трэба аддаць справядлівасьць, робіць трафныя вывады.

Далей ідзе артыкул аб лубіне, але гэты артыкул нічога новага не прыносіць, бо сялянства ўжо добра зразумела карысьць ад лубіну, дык, па магчымасьці, і карыстае з яго.

Пішучы аб гадоўлі цялят „Саха" бачыць добрую гадоўлю ў добрым даглядзе і ўходзе за цялятамі, што бязумоўна зьяўляецца зусім справядлівым.

Артыкулы аб мала яшчэ знаных кармавых расьлінах „Конскім зубе" і „Каўкаскім жывакосьніку", хоць і цікавыя, але як відаць з самага іх зьместу для беларускага селяніна вялікага значэньня ня маюць, бо калі ўжо селянін будзе карыстаць з кармавых расьлінаў, дык найболей падходным будзе для яго—віка і сэрадэля.

Вельмі добры артыкул аб капусьце і парада аб незрываньні шчыперу з цыбулі.

Пэўна карыснымі будуць артыкулы для садавода аб „хваробах і лячэньні пладовых дрэваў", а для пчалавода аб „Раеньні пчолаў".

Гаспадарчы зьмест канчаецца некалькімі парадамі агранома.

Між іншым аграном радзіць, што сэрадэля ўдаецца на лёгкай і ня мокрай зямлі. Лепей сеяць яе па азіміне. Сеяць з ярынаю ня выгадна.

Таксама радзіцца садзіць бульбу ня рэзаным насеньнем, бо як паказалі дасьледы, дык гэтак садзіць найвыгадней. А калі рэзаць, дык папярэнае рэзаньне будзе лепшае. Рэзаць насеньне бульбы ўдоўж вельмі блага.

Як бачым, дык зьмест цікавы, толькі застаецца выкарыстаць яго.

Ст. Ратай.

